АЎТАРЫТЭТ

# Як я запісвала інтэрв’ю з першым постсавецкім прэзідэнтам Латвіі Гунтысам Улманісам

У Латвіі памочнікі ўсіх пяці былых прэзідэнтаў маюць адзін офіс. І калі трэба запланаваць інтэрв’ю з былым лідарам краіны, яны рэзервіруюць у прэзідэнтуры кабінет для запісу размовы. З памочніцай былога прэзідэнта **Эвай Эйхмане** мы вырашылі, што лепей усё ж запісаць інтэрв’ю ў загарадным доме Гунтыса Улманіса. Эва працуе з ім каля 20 гадоў, падчас дзвюх кадэнцый была ягонай перакладчыцай. Яе пунктуальнасць, прафесіяналізм, добразычлівасць і адданасць уражвалі.

На дзвюх машынах разам з Эвай Эйхмане і здымачнай групай мы накіроўваемся да загараднага дому былога прэзідэнта Латвіі, гэта каля 60 кіламетраў ад Рыгі. Заязджаем у густы хвойны лес, пасля асфальтавай дарогі некалькі кіламетраў едзем грунтовай дарогай. Сапраўды, сціплы былы прэзідэнт, не дамогся нават, каб да яго дому дарогу праклалі, – думаю я, згадаўшы зусім іншыя звычкі беларускіх урадаўцаў.

І вось мы пад’язджаем да маёнтка былога прэзідэнта. Над вялікім драўляным домам лунае чырвона-бел-чырвоны латышскі сцяг. Побач з домам вялікі сад, лазня і штучнае азярцо. На мастках у крэслекачалцы – прэзідэнт Улманіс у сонечных акулярах (быў цёплы летні дзень). Я не магла не сфатаграфаваць, бо гэта фантастычны кадр. І думаю, што вопытны палітык таксама гэта разумеў.

Мае аператары, літоўцы, прыехалі разам са мной з Вільнюса, практычна адразу пасля інтэрв’ю з першым кіраўніком Літвы Вітаўтасам Ландсбергісам. “У Латвіі не маглі знайсці аператараў?”, – жартуе Улманіс і прапаноўвае прайсці ў падрыхтаваную загадзя драўляную альтанку.

Кіраўнік здымачнай групы Лютаўрас Стрымайціс просіць знайсці іншае месца, бо ў альтанцы будзе складана добра выставіць святло. “Вось так усё прэзідэнцкае жыццё, – працягвае жартаваць Улманіс, – кіруеш краінай, прымаеш важныя геапалітычныя рашэнні, а падчас здымак кіруюць табой”.

Свой дом Гунтыс Улманіс пабудаваў у 2000 годзе пасля сыходу з найвышэйшай пасады. Гаспадарчых клопатаў у яго шмат – газон, сад, кветкі – практычна ўсё робіць сам і з вялікім задавальненнем. “Прыязджаюць госці, захапляюцца тут усім, і толькі мой сябар Райманд Паўлс разумее, колькі трэба работы дзеля такой прыгажосці”, – тлумачыць былы прэзідэнт.

Ён адразу ж пытаецца пра Беларусь і кажа, што перакананы ў еўрапейскай будучыні маёй краіны, нягледзячы ні на што.

Прэзідэнт Улманіс – спрактыкаваны суразмоўца, адразу запытаўся, пашыраныя ці кароткія адказы ад яго патрабуюцца. Падышоў да камеры, праверыў, як выстаўлены планы. Я дасылала папярэднія пытанні да гутаркі, і па адказах убачыла падрыхтоўку да размовы.

Такім я зблізку ўбачыла першага постсавецкага прэзідэнта Латвіі Гунтыса Улманіса. А ягоныя адказы на пытанні для праекта Свабоды «Расія і я» прапаную кожнаму чытачу «Народнай Волі».

**Ганна СОЎСЬ.**

## Гунтыс УЛМАНІС:

# «Я не згодны, што сёння любая свабода павінна быць абаронена крывёю...»

Гунтыс Улманіс стаў першым прэзідэнтам Латвіі пасля аднаўлення незалежнасці. Ён – унучаты пляменнік прэзідэнта Латвіі Карліса Улманіса (1936–1940), дзяцінства правёў у сібірскай ссылцы.

Двойчы абіраўся прэзідэнтам парламентам краіны – у 1993 і 1996 гадах. Падчас яго прэзідэнцтва (1993–1999) быў уведзены мараторый на смяротнае пакаранне і выведзены расійскія войскі, пададзены заяўкі на ўступленне ў НАТА і Еўрапейскі Саюз, Латвія стала сябрам Савета Еўропы. 78-гадовы Гунтыс Улманіс, адзін з дванаццаці былых кіраўнікоў постсавецкіх дзяржаў, выказвае свае погляды на адносіны з Расіяй Ганне Соўсь (друкуецца са скарачэннямі. – *Рэд.)*.

**Ганна Соўсь: – У адным з інтэрв’ю ў статусе кіраўніка дзяржавы Вы казалі, што кожную раніцу прачынаецеся з думкай: «Ці магу я быць прэзідэнтам?» Цяпер вы – былы прэзідэнт, мы знаходзімся ў вашым загарадным доме, у ціхім прыгожым месцы... З якой думкай прачынаецца былы прэзідэнт Улманіс?**

**Гунтыс Улманіс:** – Думкі цяпер зусім іншыя.

Як ні дзіўна, не пра палітыку, не пра прэзідэнтуру. Пра тое, як склалася жыццё, як добра ўсё ж жыць у сваёй любімай краіне, гледзячы на тое, што мы ідзём правільнай дарогай. І не трэба асуджаць часам тыя памылкі, праблемы, якія існуюць, трэба радавацца таму, што ты маеш: свой кавалачак зямлі, домік, добрых сяброў і цудоўную краіну.

**– Спадар Улманіс, наш праект называецца «Расія і я». Вы былі ў ссылцы за савецкім часам, падчас вашага прэзідэнцтва былі выведзены расійскія войскі з тэрыторыі Латвіі. Нядаўна, калі быў акупаваны Крым, вы папярэджвалі латвійскіх кіраўнікоў аб тым, што трэба ў любым выпадку гаварыць з расійскімі кіраўнікамі, не трэба абрываць кантакты. Ці не маглі б вы для сябе сфармуляваць, якая яна – ваша Расія, тая Расія, якая блізкая вам?**

– Я не хачу звязваць Расію толькі з яе асобнымі кіраўнікамі, няхай гэта будзе Ельцын, Пуцін ці нехта іншы. Расія для мяне – паняцце нашмат шырэйшае і нашмат глыбейшае. І тыя эмоцыі, што выплюхваюцца пасля кожнай падзеі ў адносінах Расіі з іншымі краінамі, асабліва з Латвіяй, вельмі часта з’яўляюцца толькі эмоцыямі або прадметам для далейшых дзеянняў.

Я лічу, мой лёс так склаўся, што я Богам абаронены. Нарадзіўся ў такі час, калі свет мяняўся кожны дзень. Гэта быў 1939 год. А кожныя наступныя гады былі вельмі складанымі, праблемнымі. Першыя 5–6 гадоў – жыццё ў Сібіры... Раней казалі, што Сібір – турма народаў. Я адчуў гэта на сабе.

Пасля гэтага – акупацыя Латвіі, Савецкі Саюз, зноў жыццё было вельмі цяжкім. Пасля Бог падарыў магчымасць аднавіць тое, што было ў 1939 годзе.

Мы здолелі шмат чаго захаваць з 30-х гадоў мінулага стагоддзя: свае погляды на дзяржаўнасць, на дэмакратыю, на тое, што з’яўляецца свабодай жыцця і гэтак далей. Я лічу, што гэта адна з нашых пераваг, што мы захавалі пераемнасць. Не толькі ў тым дачыненні, што я – нашчадак Карліса Улманіса, а ў тым, што кожная латышская сям’я мела добрыя ўспаміны пра сваіх блізкіх сваякоў тых далёкіх 30-х гадоў. Думаю, гэта вельмі важны аргумент.

Наша тэрыторыя заўсёды была звязана з Расіяй у тым ці іншым сэнсе – бліжэй, далей, больш жорстка... Былі вельмі непрыемныя моманты, але талерантнасць латышскага і расійскага народаў (латышскі народ ніколі не ладзіў пагромаў і іншых падобных рэчаў) дазволіла пераадолець тыя велізарныя праблемы, якія стваралі палітыкі.

У сталінскія, хрушчоўскія, брэжнеўскія часы – а гэта былі вельмі жорсткія часы – латышскі і расійскі народы не гублялі сувязі, не гублялі кантактаў....

**– Вы згадалі Барыса Ельцына, цесна з ім супрацоўнічалі, калі былі прэзідэнтам? Я, дазвольце, працытую вас: «У маім уяўленні, нягледзячы на шэраг памылковых рашэнняў, Ельцын застаецца нацыянальным героем Расіі. Ён думаў не толькі пра сваю краіну, але і пра яе суседзяў». Пры гэтым, заўважу, Ельцын зрабіў пераемнікам прадстаўніка КДБ Пуціна. Ці можна было цалкам давяраць Ельцыну ў тыя часы і ці можна зараз давяраць Пуціну? У чым асноўная розніца паміж гэтымі двума палітыкамі?**

– Любога кіраўніка, у тым ліку і расійскіх кіраўнікоў, трэба ацэньваць у рамках пэўнага часу. Калі быў Ельцын, не мог з’явіцца ў Расіі чалавек з характарам Пуціна. І наадварот. Я не ўяўляю, як мог бы Ельцын сёння кіраваць Расіяй са сваім характарам, але ён быў вельмі тыповым яркім прадстаўніком свайго народа. І ў адрозненне ад іншых расійскіх кіраўнікоў ён любіў і прызнаваў заходнюю культуру і дэмакратыю. Наколькі любіў, судзіць не бяруся, але прызнаваў. Ён ставіўся да кіраўнікоў Заходняй Еўропы і Амерыкі з вялікай павагай. Ён паставіўся з вялікай павагай да балтыйскіх кіраўнікоў, у тым ліку і латвійскіх. Не думаю, што гэта былі толькі эмацыянальныя ўсплёскі. Гэта было ў той час неабходна, таму што мы ўсе былі ідэалістамі, у тым ліку і ў Расіі. І я думаю, што Ельцын бачыў перавагі і яркія колеры дэмакратычнага грамадства. Ён бачыў, але яму было складана гэта звязваць з расійскім грамадствам, якое да гэтага, як мы сёння бачым, не вельмі было гатова. Або будзем казаць так: у Расіі маюцца асаблівыя спецыфічныя погляды на дэмакратычныя працэсы, і яны іх фарміруюць па сваіх прынцыпах. Калі вы кажаце мне, што Ельцын прызначыў супрацоўніка КДБ прэзідэнтам, не думаю, што Ельцын кіраваўся на той момант, кім той працаваў і дзе. Для яго былі важныя іншыя рысы характару. Пуцін усё ж, як бы мы яго ні ацэньвалі ў святле сённяшніх падзей, чалавек моцнага характару. Чалавек, які вырашае і робіць. Гэта павінны зразумець заходнія кіраўнікі, і, зыходзячы з гэтага, павінны размаўляць з Расіяй, каб не атрымаліся страшныя моманты кшталту Крыма або што-небудзь горш.

Санкцыі прыходзяць і сыходзяць, яны, як любыя штрафы, не вечныя. Нават самых страшных злачынцаў з часам выпускаюць на волю. Тое ж самае з санкцыямі, якія сёння заходні свет справядліва ўжывае да Расіі. Але трэба далей думаць пра тое, якім будзе дыялог. Для мяне, напрыклад, незразумела, чаму заходні свет не прадбачыў сітуацыі Крыма...

**– Як вы лічыце, зараз, калі фактычна ідзе вайна на ўсходзе Украіны, заходні свет прадбачыць наступны крок Расіі? Мае канцэпцыю, што рабіць з гэтым? Якое слабае месца Захаду?**

– Цяжка сказаць. Думаю, што інфармацыйныя, абарончыя службы павінны працаваць мацней. Ваенны патэнцыял... І няма чаго цяпер сціпла паводзіць і казаць, што няма сэнсу выраблясць гарматы, танкі, аўтаматы. Трэба выраблясць, таму што мы сустракаемся з відавочнымі агрэсіўнымі дзеяннямі, якія могуць у адну раніцу нас здзівіць, і не толькі так. Але не толькі бомбы вырашаюць лёсы будучыні – перамовы, дыялогі, сустрэчы, і як бы нам ні хацелася размаўляць з дрэнным чалавекам, без дыялогу, без размоў, без дыскусій, без сустрэч немагчыма…

**– Нядаўна вы казалі, што будучыня Латвіі залежыць ад стасункаў Расіі з астатнім светам і ад ролі Латвіі ў гэтым. Нядаўна быў абраны новы прэзідэнт Латвіі. Якую параду вы можаце даць наконт таго, як будаваць адносіны з Расіяй? Якую палітыку праводзіць пры наяўнасці той пагрозы, якая цяпер ёсць?**

– Прэзідэнту трэба сустракацца і больш мець дачыненняў з заходнімі кіраўнікамі. Латвія – састаўная частка Еўрасаюза, Еўрасаюз – састаўная частка дэмакратычнага свету. Любому прэзідэнту трэба ў першую чаргу бліжэй пазнаёміцца з сябрамі і вызначыць агульную палітыку. Ён не можа даводзіць, або, не дай Бог, дыктаваць Расіі ўмовы, тыповыя для Латвіі. Ён можа толькі выказваць і абараняць тое, што вылучыў дэмакратычны свет, у першую чаргу Еўропа. Пасля асобных сустрэч з еўрапейскімі лідарамі, мяркую, новы прэзідэнт павінен шукаць шляхі да адкрытага дыялогу з прэзідэнтам Расіі. Я кажу пра свой вопыт. Як выводзілі войскі, былі вельмі складаныя моманты. Тым не менш мы з дапамогай тэлефоннай сувязі здолелі знайсці агульную мову з прэзідэнтам Расіі. Ельцыну не было праблемай патэлефанаваць мне і наадварот. Сёння гэтага няма... Я спадзяюся, новаму прэзідэнту ўдасца вельмі глыбока вывучыць перспектывы заходняга свету і потым весці дыялог, перамовы. Не выключаю, што латвійскі прэзідэнт можа быць вельмі добрым пасярэднікам у размове паміж вялікімі краінамі Еўропы і Расіяй…

**– Вы ўзгадалі пра вывад расійскіх войскаў з Латвіі. Можаце сказаць, які быў найлепшы дзень і які найцяжэйшы ў адносінах з прэзідэнтам Расіі?**

– Вы зрабілі перадачу з такой ёмістай назвай «Расія і я». Можна было і наадварот. Але ў гэтым кароткім загалоўку – глыбокі сэнс. Склалася так, што ў адносінах з Расіяй светлыя і цёмныя дні былі на працягу майго жыцця. Не толькі за прэзідэнцкія шэсць гадоў, але і за ўсе мае 76 (інтэрв’ю было запісана ў 2015 годзе. – **Рэд.**). Цёмны час быў тады, калі ў быдлячых вагонах нас вывозілі ў Сібір. Светлы час, калі сібіракі нас сустракалі, я б не сказаў, што з любоўю, але па-чалавечы і насуперак забаронам улад вельмі часта ратавалі нас ад галоднай смерці і іншых трагедый. Свабода Латвіі, незалежнасць, дэкларацыі аб суверэннай дзяржаве – гэта самы светлы час. Вывад войскаў – сумны факт, таму што войскі за сабой пакідаюць вельмі доўгі шлейф, і не самы лепшы. Радасць, калі скончылася Другая сусветная вайна, вядома, была з роздумам, а што ж далей... Уступленне ў ЕС, НАТА... Я не ўяўляю, што цяпер было б у балтыйскіх краінах, калі б не было НАТА. З іншага боку, спадзяюся, што ніколі не будзе дзейнічаць пяты параграф НАТА пра вайну, абарону, кровапраліцце. Я не згодны, што сёння любая свабода павінна быць абаронена крывёю. Так, гэта крайняя мера, але сённяшні свет мае велізарныя рэсурсы вырашэння пытанняў іншымі метадамі і спосабамі. Гэта галоўная мэта і сэнс у дыялогу з Расіяй і іншымі краінамі.

**– Вы – унучаты пляменнік прэзідэнта Латвіі Карліса Улманіса, які памёр у турэмным шпіталі ў расійскім Краснаводску. Калісьці вяліся перамовы пра тое, каб знайсці яго парэшткі і перавезці ў Латвію, але гэтага не адбылося. Як вы лічыце, чаму? І ці магчыма гэта здзейсніць?**

– Гэтаму пытанню я прысвяціў каля 20 гадоў. Парэшткі не перавязуць… Ніколі не кажы ніколі, таму што могуць нейкія цуды адбыцца, але сёння я не бачу падставы, каб яны адбываліся. Мы пабывалі ў пошуках дзесьці ў дваццаці кропках Расіі – Сібіры, Закаўказзі, Краснаводску, Санкт-Пецярбургу, там, дзе былі лагеры. Так, мы знайшлі. Нам здаецца, што ў Краснаводску наш прэзідэнт пабываў не па сваёй волі, і там ён памёр, пра гэта сведчаць некаторыя дакументы, медыцынскія даведкі. У 1980-х гадах у Валгаградзе я быў ва ўдавы лекара, што падпісваў дакументы аб яго смерці. Шмат гутарыў з Ельцыным, Клінтанам і некаторымі еўрапейскімі прэзідэнтамі. Усе яны мне кляліся, што знойдуць абавязкова, а воз і цяпер там. Маю дзве версіі. У ваенны час, 1940-я гады, у страшны час для Еўропы, пахаванне нават такіх людзей, як былы прэзідэнт, было вельмі складаным. Паміралі сотні і тысячы. Былі масавыя пахаванні. У гэтым складанасць пошуку. Мы “раскапалі” прыкладна каля сотні розных масавых і індывідуальных магіл, аднак ніякіх прыкмет не знайшлі.

Другі момант: КДБ мае такую моцную, абароненую, сакрэтную сістэму, каб такія факты не раскрываліся. Застаецца адна надзея, што калі-небудзь дэмакратычны працэс пойдзе яшчэ глыбей у Расіі, і як зорка ў небе з’явіцца вестка пра тое, што дакумент аб смерці і месца магілы Улманіса знойдуцца. Будзем жыць з гэтай думкай.

У Краснаводску помніка няма, і я не лічу гэта патрэбным, таму што для тых людзей гэта чужое імя. Усё ж помнік – гэта святая справа, яго трэба ахоўваць, за ім трэба даглядаць, паважаць гэтае месца. Не трэба прымушаць людзей іншай ментальнасці, нацыянальнасці і іншага жыццёвага вопыту гэта рабіць. Я не думаю, што на чужой зямлі помнік Улманісу што-небудзь дасць. А на латвійскай зямлі – так.

**– У 1996 годзе ў інтэрв’ю беларускай газеце «Свободные новости», вы казалі пра тое, што спачатку ўспрымалі Беларусь як развіваючую дэмакратыю з некаторымі праблемамі ...**

– Спадзяваліся, спадзяваліся...

**– Але пасля таго, як ЗША далі палітычны прытулак двум лідарам Беларускага Народнага Фронту, вы змянілі сваё стаўленне. Як вы ацэньваеце больш чым дваццацігадовае кіраванне Лукашэнкі? Зараз на фоне падзей ва Украіне ён ужо не апошні дыктатар у Еўропе. Беларусь стала пляцоўкай для мірных перамоў у ваенным канфлікце Расіі і Украіны. Як вы ацэньваеце яго ролю ў гісторыі Беларусі? Як вам падаецца, наколькі ён самастойны палітык, ці ўсё ж, нягледзячы на розную рытарыку, ён залежны ад Масквы?**

– Ролю прэзідэнта Лукашэнкі ацэняць народы, гісторыя і час. Гэта пакінем вашаму народу. Вядома, усім хочацца, каб Беларусь была часткай Еўропы на самай справе, хоць яна геаграфічна і з’яўляецца неад’емнай часткай. Але па метадах кіраўніцтва, па павазе да дэмакратычных прынцыпаў нам бы вельмі хацелася, каб Беларусь была ў нашай кампаніі, у кампаніі краін Балтыі. Калі казаць на народным узроўні, то ў Беларусі і Латвіі ніколі ніякіх праблем, спрэчак, нянавісці не было і не будзе. Многія беларусы пражываюць у Латвіі, і я ніколі не чуў, каб яны дрэнна гаварылі пра сваё жыццё. Так, беларускі народ абраў шлях з Лукашэнкам, але гэта яго выбар. Я лічу, што маладыя пакаленні павінны самі абдумваць, якім шляхам яны пойдуць далей, якую адукацыю хочуць атрымаць, якое жыццё яны самі бачаць у сваёй краіне. Было б няправільна патрабаваць ад людзей старэйшых пакаленняў пераломваць тое, што ёсць у дзяржаве, наўрад ці яны гэта могуць і наўрад ці хочуць. Але маладое і сярэдняе пакаленне павінны задаваць сабе пытанне: гэта тая краіна, у якой я хачу жыць, ці я хачу штосьці ў ёй мяняць?

Я не прыхільнік таго, што звонку можна памяняць сістэму ў асобнай дзяржаве. Досвед апошніх дзесяцігоддзяў паказвае, што моцны ўплыў знешніх фактараў, як правіла, гібельны. Так што жадаю беларускаму народу, каб яго краіна мацнела, квітнела, развівалася, каб яны любілі сябе і іншых. І я ўпэўнены, што народ знойдзе свой шлях. Праўда, адно пытанне заўсёды будзе выключна важным: узаемаадносіны з Расіяй і расійскім народам. Калі ў нас ёсць гэтыя праблемы... У Беларусі вельмі цесная сувязь з Расіяй, і якая будучыня ў гэтых узаемаадносін?.. Але я хацеў бы беларусаў трошкі папярэдзіць: вучыцеся на досведзе Усходняй Украіны, вучыцеся на досведзе Крыма. Не будзьце блізарукімі і наіўнымі, глядзіце на свае вочы і думайце, куды і як вы ідзяце.

**– У Беларусі ў 1995 годзе прайшоў спрэчны рэферэндум, дзякуючы якому расійская мова атрымала статус другой дзяржаўнай, і фактычна за гэтыя гады выцесніла беларускую мову. У свой час ваш нацыянальны геній Яніс Райніс падтрымліваў беларускую мову, удзельнічаў у моўнай канферэнцыі ў 1926 годзе ў Мінску і дапамагаў беларускай дыяспары ў Латвіі. Як вы лічыце, як знайсці аптымальны баланс паміж падтрымкай сваёй нацыянальнай мовы і павагай да іншых моў? І як зрабіць так, каб расійская мова не стала небяспечным фактарам для краіны-суседкі Расіі? Каб не прыйшлі «зялёныя чалавечкі» для таго, каб «абараняць рускамоўных»? Гэта вельмі далікатнае пытанне, для многіх краін актуальнае...**

– Яно не столькі далікатнае, колькі патрабуе характару. Першае: якое двухмоўе? Адна краіна – адна мова. У побыце, у сям’і – няма пытанняў. У невялікіх краінах тры-чатыры мовы – гэта нармальная з’ява, і кожны жыхар будзе валодаць імі і мець зносіны на іх. Але мова – гэта такое ж святое, як гімн, сцяг, герб. Маё меркаванне: адзін закон – адна мова ў першую чаргу. Усё астатняе потым пад гэта будуецца і робіцца.

Я не хачу даваць рэкамендацый з нагоды мовы беларускаму народу. Ні ў якім разе. Але для мяне нічога больш святога няма на свеце, чым мая родная мова. Гэта святая святых…

Можа быць, гэта такая маленькая бытавая мая парада: паважай сваю мову не толькі ў законах, паважай сваю мову ў паўсядзённым жыцці, пры сустрэчах з іншымі людзьмі. Я думаю, што гэта павінна прынесці вынік і вечнае жыццё сваёй мове. Беларуская мова – вельмі прыгожая мова, і заслужыла, каб на ёй гаварылі куды шырэй, больш і глыбока.

**– За два тэрміны вашага прэзідэнцтва было зроблена вельмі шмат. Былі выведзены расійскія войскі, былі пададзены заяўкі на ўступленне Латвіі ў НАТА і ЕС, адмянілі смяротнае пакаранне, Латвія стала сябрам Савета Еўропы. З усяго станоўчага, што адбылося ў Латвіі, што вы лічыце сваім галоўным дасягненнем за час свайго прэзідэнцтва?**

– Самы складаны перыяд у прэзідэнтуры... Прыйшлося ўсё адбудоўваць з нуля, толькі з добрай памяці аб ранейшых гадах. Я лічу, што вельмі паспяхова і прафесійна атрымалася стварыць усе дзяржаўныя структуры, пачынаючы з карпусоў дарадцаў і канчаючы практычнымі дзеяннямі прэзідэнцкай інстытуцыі ва ўсіх пытаннях кіравання дзяржавай. Першыя гады – гэта школа кіравання дзяржавай з нізу да верху. Латвія гэты працэс прайшла вельмі паспяхова і вельмі хутка. Гэта было адным з дасягненняў першых 5–6 гадоў Латвіі, гэта значыць падчас маёй прэзідэнтуры. А ўсё астатняе – гэта цяжкія пытанні з паспяховымі завяршэннямі. Гэта вывад войскаў, гэта грамадзянскія пытанні, моўнае пытанне, уступленне ў розныя інстытуцыі, арганізацыі, амбасады ва ўсім свеце і гэтак далей... Латвія – паспяховая краіна, вельмі паспяховая краіна, гэтым ганаруся, і рады, што мне ўдалося ў першыя гады актыўна ўдзельнічаць у гэтых працэсах, якія Латвія заслужыла.

**– Вы былі прэзідэнтам, які не быў уцягнуты ні ў які скандал. Вы сышлі, пакінуўшы ўсе падарункі ў Рыжскім замку, адмовіліся ў свой час ад павышэння зарплаты. Зараз у Латвіі ўжо чатыры былыя прэзідэнты. Нашу перадачу будуць глядзець у многіх краінах, у якіх яшчэ няма былых прэзідэнтаў. Што вы маглі б параіць, чаму добра быць былым прэзідэнтам, якія ёсць перавагі? Аляксандру Лукашэнку, напрыклад?**

– На перавагі ніколі не трэба звяртаць увагі. Не чакайце пераваг, будучы прэзідэнтам. Падарункі прэзідэнтам дэмакратычных краін, асабліва такіх, як краіны Балтыі, ніхто асабліва не дорыць. І ніякіх вялікіх падарункаў латвійскія інстытуцыі не атрымлівалі і, думаю, зараз не атрымліваюць.

**– А карціна Шышкіна, якую вы пакінулі ў Рыжскім замку?**

– Так, але што для прэзідэнта, дапусцім, Расіі ці Амерыкі, карціна Шышкіна? Там іншыя маштабы. Так што тут пра падарункі і гаворкі не можа быць…

**– Я нядаўна чытала ў адным з вашых інтэрв’ю, што вы перачытваеце «Доктара Жывага», што шмат чытаеце цяпер. Наколькі актыўныя вы цяпер у грамадскім жыцці? Наколькі запатрабаваны ваш вопыт?**

– Кніг шмат чытаю, апрацоўваю свае тры гектары, калі так можна сказаць, не апрацоўваю, а даглядаю. Ламаецца адно, другое, трэцяе. Пад старасць нядрэнна пачаў асвойваць розныя рамёствы, гэта спатрэбіцца ўсім. Спортам займаюся, арганізацыяй спартыўных таварыстваў, як вы ўжо зразумелі. Расчараваўся ў сённяшняй палітыцы, быў абраны зноўку ў парламент, але ўбачыў, што калі ты быў прэзідэнтам, то ўжо дэпутатам лепш не быць. Прэзідэнту дадзена права сваё меркаванне выказваць у вельмі многіх фарматах і не абавязкова займаць канкрэтныя службовыя пасады…



ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

*У “Народнай Волі” за 10 студзеня надрукаваны ліст Антаніны Гаўрылкінай з Гродна. Рэдакцыя падтрымала яе прапанову – у тым жа нумары на 7-й старонцы з’явілася спецыяльная рубрыка “Для вясёлай кампаніі”, пад якой будуць змяшчацца тэксты застольных песень беларусаў. Сёння друкуем словы песні “Ручнікі”, якая заўжды прыгожа гучыць у вясёлай кампаніі.*

# Ручнікі

*Словы В.Вярбы*
*Музыка М.Пятрэнкі*

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
– Пакажы, Алёна, броды земляку, *2 разы*
Дзе тут пераехаць на кані раку.

– Адчапіся, хлопец, едзь абы-куды,
Не муці мне толькі чыстае вады…
У маркоце Янка галавой панік, *2 разы*
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

– Янка, мой саколік, пажамы хутчэй,
Ой, плыве, знікае ручнічок з вачэй!
– Любая Алёна, я вады баюсь, *2 разы*
Пацалуй спачатку, бо я ўтаплюсь.

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалавала Янку Лена над вадой...
Стала ціха-ціха на ўсёй зямлі – *2 разы*
Па рацэ далёка ручнікі плылі…

ЗАКУЛИСЬЕ

# Биз-умство храбрых. Новые герои

Интеллектуальный клуб Светланы Алексиевич, который начал свои заседания в конце прошлого года, не первый и не единственный в Минске. Например, есть biz.умство, он проводит свои заседания уже год. Конечно, сказать, что за это время клуб стал очень популярен в Минске, будет преувеличением. Это проект для людей думающих, а их по определению – не масса, biz.умство – элитарные встречи с персонами яркими, но не публичными. Даже журналистам они не всегда дают интервью. А здесь – пожалуйста. В этом его изюминка, главная приманка. Тем более каждый из героев приносит на встречу какую-нибудь очень интересную, с их точки зрения, книгу и вместе с публикой обсуждает ее. Как правило, авторы книг – мятежники духа и возмутители спокойствия – добились ощутимых побед в жизни, и потому их биографии и опыт может быть интересен, а кому-то даже полезен.

За год на площадке бизнес-клуба «Имагуру», где прописался этот проект, выступили известные люди: Поверенный в Делах США в Беларуси Скотт Роланд, основатель и совладелец интернет-портала TUT.by Юрий Зиссер, писатель Виктор Мартинович, ресторатор Вадим Прокопьев, бизнесмены Александр Кнырович, Юрий Лознер, Павел Дайнеко, политик Станислав Шушкевич... И каждый был со своей настольной книгой, особенной для него, с книгой, которая помогла подняться на новый уровень или ворвалась в жизнь с новой идеей.

Новая встреча с биз-умцами состоится 2 февраля. Нас приглашает семейная пара – Надежда Зеленкова и Александр Василевич, сооснователи столичной галереи «Ў». Они принесут с собой бестселлер Ричарда Флориды «Кто твой город? Креативная экономика и выбор места жительства», в которой рассказывается, как сделать выбор, чтобы место жительства соответствовало возрасту, работе, стилю жизни и предпочтениям человека. Любопытный поворот. Обсудим?

**Ксения ВЛАДИМИРОВА.**

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

# Маттео Спьяцци снова в Русском театре

Раз талантливый режиссер из Вероны Маттео Спьяцци снова в Минске, значит, нас ждет в театре очередная забойная штучка. Его предыдущая импровизация «Viva comedia» в стиле комедии дель-арте в Национальном академическом драматическом театре им.Горького с успехом идет там с 2014 года и по сей день. А сейчас Спьяцци приступил в нашем театре к репетициям нового спектакля – «Трактирщица» по пьесе Карло Гольдони. А пьесе-то без малого 300 лет.

Поэтому до нас доходят слухи из театрального закулисья, что режиссер не побоялся и изрядно переработал классику: в ней появляются новые персонажи, новые повороты сюжета. Не навредил ли один итальянец другому? Посмотрим. Пока же с абсолютной уверенностью можно сказать одно: это будет динамичный спектакль, полный актерских импровизаций. В общем, итальянское солнце в холодной белорусской воде. В спектакле режиссер снова занимает артистов, с которыми уже работал на предыдущей постановке и в способностях которых к быстрому и яркому перевоплощению уверен: Сергей Чекерес, Вероника Пляшкевич, Олег Коц, Павел Евтушенко, Инна Савенкова.

**Валентин КУДРЯВЦЕВ.**

ЗВЕЗДНЫЙ СЛЕД

# Оксана Волкова блистает в Нью-Йорке

Нашу оперную звезду Оксану Волкову мы услышим в Минске, в родных стенах Большого, кажется, не раньше конца февраля. Потому что сейчас Волкова на гастролях в Нью-Йорке. Солистка Большого театра Республики Беларусь вновь выступает на прославленной сцене Метрополитен-опера.

Наша артистка поет теперь в опере Верди «Риголетто» партию Маддалены. Опера была поставлена в Нью-Йорке четыре года назад. В премьерных спектаклях тогда тоже участвовала О.Волкова, и не могу не вспомнить, что американский критик Энтони Томмазини из такой серьезной газеты, как New York Times, назвал ее в своей статье «блистательное молодое меццо-сопрано».

В январе и феврале нынешнего года в афише Мет стоят еще три спектакля этого очень популярного произведения, «лакомого кусочка Верди», как называют его музыковеды. И во всех трех будет занята наше меццо-сопрано Оксана Волкова. Ее партнеры на этот раз – прославленная российская певица Ольга Перетятько, которая на сегодняшний день всерьез конкурирует с самой Анной Нетребко. А также звезда американской оперной сцены Стивен Костелло и один из самых блистательных баритонов нашего времени серб Желько Лучич. Собственно, это понятно: в Мет середняков не приглашают. И знать, что Оксана Волкова тоже взошла на мировой оперный олимп – большая гордость для нас, ее соотечественников.

И еще пару слов о самой постановке «Риголетто». Режиссер взял на себя смелость и перенес средневековый сюжет оперы по мотивам пьесы Гюго «Король забавляется» в Лас-Вегас 1960-х годов. Кадиллаки, казино, барные стойки, эротические танцы на шесте… По правде говоря, некоторые посчитали, что шедевр Верди превратился в кровавый триллер по-американски, в эдакий брутальный оперный коктейль. Что не мешает, впрочем, этой постановке собирать зал и идти на сцене Мет который год подряд.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПЕЧАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

# Сергей НОВИЦКИЙ из Новополоцка живет на улице уже около 20 лет

*Когда-то у него была своя квартира и семья. Теперь – только собака по кличке Ника, с которой они каждый день обходят городские мусорные баки и пункты приема вторсырья. Историю своей жизни Сергей Новицкий рассказал «Народной Воле».*

## Человек с собакой

Бывшего сотрудника завода «Нафтан» я встречаю около подъезда одного из домов. На Сергее две куртки, спортивные штаны и мокрые кроссовки. На лице двухдневная щетина.

Только что Сергей закончил работать: помогал местным дворникам убирать снег, которым завалило городские дворы. На мое приветствие 56-летний мужчина отреагировал не сразу: объяснил потом, что нечасто к нему так обращаются прохожие.

– *Конечно, я не на улице родился,* – соглашается на диалог мой новый знакомый и закуривает сигарету. – *Рос в нормальной семье, учился в Новополоцке. Родители у меня из рабочих были. И работа у меня хорошая была, жена, дети… Дети уже взрослые, внуки есть, но мы не общаемся много лет.*

По профессии Сергей Новицкий – водитель. Работал на автотранспортном предприятии №6, потом 7 лет – в транспортном цехе на «Нафтане». Говорит, что в то время на заводе платили немалые деньги. Сейчас на жизнь мужчина зарабатывает сбором макулатуры, бутылок, промышленного мусора и так далее. Чтобы получить сегодня в пункте приема хотя бы 5–10 рублей, нужно пройти не один километр и сдать несколько сумок разного барахла. Вырученные деньги, как правило, уходят на еду и спиртное.

– *Зимой подрабатываю уборкой снега, летом – копаю и подметаю,* – рассказывает Сергей Новицкий. – *От работы не отказываюсь, когда предлагают. На приемке цены совсем низкие…*

Пункты приема закупают вторсырье у населения действительно по невысоким ценам. В ближайшей точке пластмассу, стекло, пленку и картон можно сдать по цене от 0,25 до 0,7 рубля за килограмм. Сначала, правда, все бутылки нужно помыть, снять металлические закрутки, а макулатуру расфасовать, так как коробки от молочных продуктов и вина не принимают.

– *Делать нечего, поэтому приходится все выполнять,* – объясняет бездомный житель Новополоцка. – *Иной раз не один мусорный контейнер надо облазить, чтобы хоть на пару рублей сдать.*

**– Разве там можно что-нибудь ценное найти?**

– *Нет, конечно. Бутылки, бумага в основном. Старую одежду люди иногда выбрасывают. Ну, или для собаки что-нибудь.*

За годы бездомной жизни моему собеседнику приходилось ночевать и на улице, и в подвалах. Собака, кстати, так и прибилась, а новополочанин не стал прогонять. Говорит, что вдвоем веселее.

Зима, по словам Сергея Новицкого, самая трудная пора для выживания. На лице у мужчины красные пятна от холода, руки обморожены.

– *В крепкие морозы нелегко,* – говорит Сергей Васильевич. – *Когда минус 30 было, то ночевал у брата, но на улицу все равно выходил – в четырех стенах много не высидишь. Зимних вещей у меня немного, поэтому все, что было, то и надевал. Для нас еще «Красный крест» пункты обогрева открывал. Можно было перекусить и погреться. Вообще, туда время от времени люди обращаются, но я не хочу. Сам удивляюсь: как столько лет на улице и живой еще?!*

Есть у Сергея родной брат, который ездит на заработки в Россию. Иногда бывший водитель заходит к родственнику, но гостеприимством старается не злоупотреблять.

## Одиночество и спиртное

Рассказывать о том, почему оказался на улице, Сергей соглашается не сразу. Объясняет, что дело прошлое и нет смысла вспоминать.

– *Скажу, что в такой жизни виноват только я,* – самокритично рассуждает немолодой мужчина. – *Вообще, во всем, что с человеком происходит, только он и виноват.*

По словам моего собеседника, он не смог пережить развод с женой, из-за чего и начались многочисленные неприятности. Тогда же и стал злоупотреблять спиртным, до этого, как признается, лишнего себе не позволял. Когда уходил из семьи, квартиру оставил жене и детям. О том, чтобы встретиться и поговорить с уже взрослыми сыном и дочерью, Сергей Новицкий даже не думает.

– *Я, когда старых знакомых вижу или бывших коллег, на другую сторону улицы перехожу,* – откровенничает Сергей. – *А ты говоришь: с детьми встретиться… Пусть лучше думают, что меня вообще нет. Стыдно, да и о чем говорить…*

Со временем из-за частых выпивок житель Новополоцка лишился нормальной работы. Перебивался случайными заработками, стоял на учете в Центре занятости населения, ездил на уборку урожая в колхоз. А потом и вовсе перестал интересовать работодателей и оказался на улице.

В такой судьбе Сергей Новицкий винит только себя. Признается, что не смог вовремя взять себя в руки, за что и поплатился.

– *Супруга не виновата ни в чем,* – продолжает рассказывать Новицкий. – *Перестали общий язык находить, где-то я неправ был, хотя пытался снова с ней сойтись, но не получилось. А когда один остался, к бутылке и пристрастился. Спиртное только называют вредной привычкой, а на самом деле это настоящий наркотик, который меняет человека. Так вот и со мной получилось…*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**
Фото автора.

ВЕДАЙ НАШЫХ!



# Воднальыжнікі з Наваполацка – лепшыя ў свеце

*Міжнародная федэрацыя водных лыж і вейкборда (IWWF) падвяла вынікі спартсменаў мінулага года.*

Трое выхаванцаў водналыжнай школы імя Геновых прызнаны лепшымі спартсменамі 2016 года. Аляксей Жарнасек – у класічных водных лыжах, Ганна Стральцова і Мікіта Папакуль – у водных лыжах за электрацягай.

Дарэчы, Ганна ўдастоена звання Спартсмен года сярод жанчын ужо другі раз. У 2016 годзе дзяўчына ўстанавіла новы сусветны рэкорд у скачках з трампліна – 50,4 м, заваявала званне чэмпіёнкі Еўропы ў фігурным катанні і на трампліне, а таксама сярэбраны медаль у шматбор'і.

*– Вядома, прыемна атрымліваць такія званні,* – сказала «Народнай Волі» наваполацкая вадналыжніца. *– Ты – сярод тых, каго вылучылі. Думаю, многія спартсмены хацелі б атрымаць такое званне.*

*Акрамя спорту, скажу, што год таксама прайшоў удала: я закончыла ўніверсітэт. Зараз пачынаецца новы сезон, уваходжу ў форму, бо быў перапынак у трэніроўках. Асноўныя спаборніцтвы ў мяне летам, але працаваць трэба ўжо зараз. Самым галоўным у сезоне стане чэмпіянат свету за катэрам, а таксама чэмпіянат Еўропы за катэрам і электрацягай.*

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ШАХМАТЫ

# Решательский форум

На финише минувшего года в Минске состоялся девятый Кубок «Альбино» по решению шахматных композиций. Как и год назад, соревнование прошло в ранге одного из этапов Кубка мира. В борьбу вступили два международных гроссмейстера, четыре международных мастера, мастер ФИДЕ, чемпионы мира, России, Украины и Беларуси разных лет... В турнире выступали семь россиян, два украинца, а из 11 белорусов восемь в свое время были чемпионами или призерами первенств нашей страны.

Как и в прошлом году, призовую тройку составили россияне. Евгений Викторов победил в Кубке «Альбино» уже в третий раз, а его коллеги стали призерами впервые: второе место у чемпиона России 2016 года Дмитрия Плетнева, третье – у юниора из Волгограда Данилы Павлова. Реноме белорусов поддержали Александр Булавка (4-е место) и Михаил Никитенко (8-е). Кубки в шести номинациях завоевали Анатолий Мукосеев (двухходовки), Александр Булавка (трехходовки), Владимир Аридов (этюды), Евгений Викторов (кооперативные маты), Михаил Никитенко (многоходовки) и Валерий Копыл (обратные маты).

# В престижном обществе

Финишировал крупный международный конкурс по составлению задач, посвященный 50-летию ведущего белорусского шахматного композитора Виктора Волчека. В разделе двухходовок соревновались 54 композиции 38 авторов из 13 стран, трехходовки были представлены 43 задачами 34 авторов из 11 стран, многоходовки – 34 задачами 26 авторов из 9 стран. Географический диапазон – от России и Казахстана до США и Аргентины. В престижной компании белорусские авторы сумели завоевать ряд призов, почетных и похвальных отзывов.

Предлагаем для самостоятельного решения задачу Николая Быкова (Барановичский район), отмеченную в этом конкурсе первым почетным отзывом.




**Белые:** Кре5, Фа2, Лb1, Лb3, Cb2, Cc4, Кc2, Кg1, пп. a3, b4, d4, d5, f4, g3 (14).

**Черные:** Крf2, Лh4, Ch2, Ch3, пп. g2, g4, h5 (7).

**Мат в 2 хода.**

Присылайте решения на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: **vadim_ne67@mail.ru.**

# Лучшие в Европе

На чемпионате Европы по блицу в столице Эстонии (510 участников) Сергей Жигалко завоевал бронзовую медаль, а в быстрых шахматах был десятым из 550 шахматистов (Валерий Казаковский оказался тут лучшим в категории до 18 лет). На чемпионате мира по быстрым шахматам в Катаре С.Жигалко финишировал 37-м из 106.

Целое созвездие медалей завоевали наши юные шахматисты на чемпионатах Европы от 8 до 18 лет в Сербии: по быстрым шахматам золото у Артема Белявского, Яны Ильючик и Ольги Баделько, серебро – у Вячеслава Зарубицкого, бронза – у Егора Силича. Плюс у Беларуси золото в командном зачете до 14 лет и серебро – до 10 лет; по блицу золото у Ольги Баделько, серебро – у Артема Синявского и Александры Шабан, а по решению задач золото у Артема Синявского, серебро – у Александры Шабан, бронза – у Михаила Никитенко.

## Проверьте решения

Задача М.Храмцевича от 1 ноября решается **1.Фс3**.

Ответы на это и ряд предыдущих заданий прислали И.Ананич (Гродно), Р.Костючик (Брест), А.Заренок (Калинковичи), Л.Колодко (Жодино), А.Литвинов (Минск).

**Вадим ЖИЛКО.**



ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

# Валерый ІСАЕЎ: «Некаторыя спартсмены ўмеюць па-англійску лічыць толькі да пяці…»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пагутарыў з чалавекам, у якога незвычайная прафесія – футбольны агент.*

У свой час Валерый ІСАЕЎ займаўся бізнесам і прадстаўляў інтарэсы цэлага шэрагу яркіх футбалістаў – бразільца Рэнана Брэсана, які затым прыняў беларускае грамадзянства, Дзмітрыя Верхаўцова, Станіслава Драгуна... Але сёння яго больш цікавяць маладыя таленты, чым зорныя ігракі.

**– Валерый, з чаго пачыналі ў бізнесе?**

– Рэстараны ў Віцебску адкрываў, алкаголь прадаваў, вытворчасцю займаўся… Ці паспяховы я быў бізнесмен? Ведаеце, прайсці бізнес-школу 90-х гадоў – гэта ўжо дасягненне. Калі прайшоў і застаўся жывы – можаш лічыць сябе паспяховым.

**– Адначасова было захапленне футболам?**

– Так ці інакш, але я заўсёды быў пры футболе. Бацька ўсё жыццё гуляў на аматарскім узроўні, я таксама не заставаўся ўбаку, бо займаўся гэтым відам спорту з дзяцінства. А ўжо калі ўцягнуўся ў бізнес, даведаўся, што ёсць такая прафесія, як футбольны агент. Удакладніў, што можна атрымаць ліцэнзію, гэта аказалася не так і складана. І сёння не шкадую. У гэтай рабоце больш свабоды.

**– Ці складана атрымаць такую ліцэнзію?**

– Зараз, мне падаецца, прасцей, бо раней гэта і больш каштавала, і экзамены трэба было здаваць. А цяпер патрэбна, каб чалавек адпавядаў пэўным крытэрыям: быў несудзімы, з вышэйшай адукацыяй… Так што, па сутнасці, любы можа стаць футбольным агентам. І ў той жа час у Беларусі ўсяго каля дзесяці такіх агентаў. Для параўнання: у Англіі іх каля 700 чалавек.

**– Не вельмі ў нас народ імкнецца на такую, як падаецца многім, "грашовую пасаду"…**

– Дык жа заробак тут ніхто не гарантуе.

**– А я чытаў, што агент атрымлівае 10 працэнтаў ад трансферу футбаліста і столькі ж ад яго заробку.**

– На першы погляд і насамрэч усё проста і прыгожа. Маўляў, вось ёсць прафесіянальны футбаліст, які атрымлівае добрыя грошы, ён толькі і чакае, каб заключыць з вамі дамову і аддаваць частку свайго заробку. Ілюзія! Агент – гэта пасярэднік, і, як у любым бізнесе, вам трэба прыкласці вельмі шмат сіл, каб быць у плюсе. Да таго ж, калі падлічваць уласны прыбытак, вельмі важна, у якой краіне ты працуеш. Напрыклад, у той жа Англіі каля 10 ліг, з іх, здаецца, чатыры – прафесіянальныя. У прэм'ер-лізе многія футбалісты атрымліваюць мільёны фунтаў у год, але ёсць і такія, хто мае па 300–400 тысяч фунтаў. А ў нас ва ўсёй каманды "Крумкачы" такі бюджэт на сезон. Вось і лічыце, колькі мае агент у беларускіх рэаліях. Натуральна, і сумы трансфераў нашых ігракоў значна ніжэйшыя. Таму вельмі важна, дзе ты вядзеш сваю дзейнасць – у Беларусі альбо за мяжой.

**– Напэўна, у 2005 годзе добра зарабіў Мікалай Шпілеўскі – агент Аляксандра Глеба, калі беларускі футбаліст перайшоў з нямецкага "Штутгарта" ў лонданскі "Арсенал"? Сума трансферу тады склала 15 мільёнаў еўра.**

– Агент футбаліста зарабіў грошы сваёй працай. Мікалай Шпілеўскі – прафесіянал найвышэйшага ўзроўню, які зрабіў сябе сам і моцна дапамог Аляксандру ў яго спартыўнай кар'еры. І я ўпэўнены, што калі ў нашых маладых футбалістаў не будзе побач такога памочніка, то яны і не будуць гуляць за мяжой. Там работа агента – кожны дзень знаходзіцца побач са сваім іграком. Каб той на пяты дзень альбо на шосты месяц знаходжання ў замежным клубе не сеў на аўтобус і не вярнуўся дадому. Чалавек павінен адаптавацца ў замежжы, дзе абсалютна іншае жыццё. Па-першае, многія футбалісты элементарна не ведаюць замежнай мовы. У мяне было некалькі выпадкаў, калі везлі ігракоў на гатовыя кантракты ў англійскія, нямецкія і шатландскія клубы. Кіраўніцтва клубаў пыталася пра веданне замежнай мовы футбалістамі, а што ім было адказаць? Тое, што нашы ігракі ўмеюць лічыць па-англійску да пяці? І клубы тады адмовіліся ад паслуг такіх спартсменаў…

Калі ж вяртацца да трансферу Глеба, то гэта была самая буйная здзелка ў гісторыі беларускага футбола. Ды і сам Саша, на мой погляд, самы таленавіты футбаліст на постсавецкай прасторы.

**– І такія, як Глеб, не з'яўляюцца штогод…**

– Я і працую зараз толькі з маладымі футбалістамі. Трэба шукаць таленты, раскрываць іх. І – "трымаць у руках", таму стараюся зрабіць так, каб мае футбалісты ў пэўным сэнсе былі "рабамі". Бо, калі 17–18-гадовым юнакам дазваляць прымаць рашэнні самім, то яны 100 працэнтаў крокаў зробяць няправільна. Гэта паказвае жыццёвы вопыт. І ў большасці спрэчных сітуацый я на баку клуба, а не футбаліста. Паўтаруся, калі футбаліст сам пачне думаць і прымаць рашэнні, то нічога добрага з гэтага не атрымаецца. Пасля Глеба ў Беларусі з'яўляліся вельмі таленавітыя дзеці (і зараз яны ёсць), але, калі такі агент, як Шпілеўскі, імі не зоймецца, то ў Еўропе яны гуляць не будуць. Бо людзі выхоўваліся ў беларускім грамадстве.

**– Як агент і футбаліст знаходзяць адзін аднаго?**

– Асабіста я зараз наведваю розныя міжнародныя юнацкія турніры, хаця, шчыра кажучы, у цэнтры маёй увагі хлопцы не з Беларусі, бо ёсць партнёры ў розных краінах. Гляджу матчы вышэйшай і першай ліг, аналізую, хто можа быць запатрабаваны на футбольным рынку. Але часам займаешся футбалістам нават на дабрачыннай аснове, ведаючы, што ён ніколі не зайграе на высокім узроўні. Гэтакая работа для душы.

**– Вы самі прапаноўваеце паслугі футбалісту?**

– Так, калі ён сам нічога не шукае і нічога не шукаюць яго бацькі. Хаця трэба сказаць, што бацькі для агента – гэта, як кажуць, абцяжарваючыя абставіны. І скажу шчыра: у 90 працэнтах яны проста хочуць зарабіць на сваіх дзецях. Мама будзе табе казаць, што яна ўклала ў сына апошнія грошы, а таму ён заўтра павінен гуляць у іспанскай "Барселоне". Бацькі не набіраюцца цярпення, паўсюль усоўваюць свой нос… А гэта не дапамога хлопцу, а зусім наадварот. Дык выхоўвайце яго дома! Дайце яму базу, каб чалавек быў працавіты і добразычлівы. Вось тады ў яго будзе больш шанцаў праявіць сябе. А сёння многія таты даюць устаноўкі сыну, як яму трэба гуляць на полі. Усе – вялікія спецыялісты.

**– Уласныя грошы даводзіцца ўкладваць у гэты футбольны бізнес?**

– Безумоўна. Найперш немалыя грошы трэба выдаткоўваць на медыцыну. Бяда футбалістаў – траўмы, а зрабіць нават МРТ у абласным ці раённым цэнтры – гэта праблема. Я не так даўно вазіў хлопца на аперацыю ў Бельгію, ён парваў звязкі. У клубе гэтую траўму наогул не дыягнаставалі, сказалі далей трэніравацца. У паліклініцы паслалі на МРТ, але запісалі ў вялікую чаргу… У Мінску зрабілі МРТ, давялося везці іграка за мяжу. Бо не ўсе бацькі могуць гэта сабе дазволіць. Аперацыя ж у Бельгіі не тры рублі каштуе.

Акрамя таго, калі хлопец яшчэ не гуляе ў камандах вышэйшага класа, атрымлівае таксама няшмат. Натуральна, што пражыць за мізэрную суму практычна немагчыма, а таму даводзіцца дапамагаць. Былі выпадкі, калі я сам выкупляў трансфер іграка, і гэта было памылкай, бо футбаліст сябе не праяўляў у будучым. Таму ў нашай прафесіі свае выдаткі і свае рызыкі.

**– Раней вы былі агентам бразільскага футбаліста Рэнана Брэсана, які затым прыняў беларускае грамадзянства…**

– Калі Рэнан стаў беларусам па пашпарце, ён пачаў ператварацца ў памяркоўнага беларуса і як спартсмен. Разумееце, Брэсан прыехаў у Беларусь "галодны" да футбола. Я выкупіў яго трансфер, трэнер Анатоль Іванавіч Юрэвіч ацаніў перспектыўнасць футбаліста. Дарэчы, тады ў Беларусь прыехаў не толькі Рэнан, а і яшчэ адзін бразільскі футбаліст. Памятаю, гэта была зіма, мароз… І трэба ж такому здарыцца, што другі бразілец падчас матча ў Віцебску, у якім праглядалі легіянераў, адмарозіў на нагах пальцы. У бальніцу адвезлі, думалі нават, што справа дойдзе да ампутацыі… Усё, чалавек адправіўся дадому!

А Брэсан вельмі хутка адаптаваўся да беларускага ладу жыцця і футбола дзякуючы таму, што ігрок, як я ўжо казаў, быў "галодны" да гульні. Яму трэба было карміць сям'ю, паказаць сябе… Я ж вырашаў яго бытавыя пытанні, уся мая сям'я ведала, што адбываецца ў жыцці футбаліста. Дарэчы, гэта была мая ініцыятыва, каб Брэсан стаў грамадзянінам Беларусі.

**– Якая была сума трансферу Рэнана Брэсана?**

– Зусім невялікая, у раёне 20 тысяч долараў. Але ж мы бачылі, як ён прагрэсіраваў у БАТЭ! Праўда, як толькі футбаліст патрапіў у зону камфорту, у яго знікла футбольная агрэсія. Мы перасталі супрацоўнічаць, Рэнан, калі з'ехаў у Партугалію, вырашыў, што з усім можа справіцца самастойна.

**– Старшыня праўлення БАТЭ Анатоль Капскі неяк сказаў: "Ведаю вельмі мала агентаў, якія на самай справе дапамагаюць футбалісту ўдасканальвацца, даюць яму слушныя парады, выстаўляюць адэкватную ацэнку яго дзеянням. Часцей яны хочуць падабацца ігракам, каб зарабіць больш грошай. Агента непакоіць, колькі ён атрымае ад здзелкі".**

– А што дрэннага ў тым, што агент пераследуе свае інтарэсы? Гэта ж яго прафесія. На маёй памяці больш выпадкаў, калі на лёс футбаліста ўплывалі людзі, якія былі далёкія ад агенцкай дзейнасці. Розныя старшыні гарвыканкамаў, бізнесмены… Усе спрабуюць улезці ў гэты ланцужок і зарабіць свае тры капейкі. Але агент у любым выпадку атрымлівае сваю порцыю негатыву. Так, як кажуць, у любой сям'і знойдзецца пачвара, але гэта ў любым відзе дзейнасці.

**– Валерый, калі казаць пра беларускі футбол увогуле… Ці ёсць прагрэс?**

– На мой погляд, узровень нацыянальнага чэмпіянату ў апошнія два гады знізіўся. То змяняем колькасць каманд у вышэйшай лізе, то дазваляем выступаць там клубам з маленькім бюджэтам. Энтузіязм кіраўніцтва "Іслачы" ці "Крумкачоў" можна толькі вітаць, але гэта – не прафесіянальны футбол, а авантура.

**– Заробкі беларускіх футбалістаў апошнім часам моцна знізіліся?**

– Істотна. Калі бюджэт клуба складае 400 тысяч долараў, то якія там могуць быць заробкі? Каля 500–600 "зялёных" у месяц. Гэта, напэўна, сярэдні заробак 70 працэнтаў каманд беларускага чэмпіянату.

**– А вось на форумах у інтэрнэце некаторыя лічаць, што футбалісты праядаюць народныя грошы…**

– Дык і пра агентаў пішуць, што яны нічога не ствараюць, а столькі зарабляюць! Спецыялістаў жа хапае. Так і хочацца ім параіць: падыміце задняе месца з канапы, купляйце буцы і ідзіце зарабляць! Але чаму людзі не кажуць такое пра бізнесменаў, якія таксама нешта зарабляюць і ездзяць на дарагіх машынах? У чым розніца? Толькі ў тым, што футбалісты знаходзяцца ў цэнтры ўвагі людзей. Усе любяць лічыць чужыя грошы…

**Алесь СІВЫ.**

КРЫЖАВАНКА

# Студзеньскія перапевы

**Па гарызанталі:** 1.Святое … – людзям прыгажство (прык.). 4.Пеўня на зарэз нясуць, а ён крычыць "… !" (прык.); год Чырвонага (Агнявога) Пеўня, паводле ўсходнеазіяцкага календара, пачынаецца сёлета 28 студзеня. 8.Дзе … – прыгажуні, там і пеўні малайцы (прык.). 9."… зноў сыпле мяккі снег,//А бель – аж вочы адбірае" – з верша М.Лешчуна "Студзеньскае". 11.Ушанаванне. 14.Нізкарослы конь. 15.Лякарства. 16.Задняя частка рыбалоўнай снасці. 18.Музычны знак у выглядзе дугі над нотамі. 20.Сельскі домік у гарах Швейцарыі. 21.Найноўшыя фасоны ўбораў. 23.Мінерал. 24."І лятуць мае лёгкія … .//Унашуся я ў снежную даль" – з верша М.Багдановіча "Зімовая дарога". 29.Навука аб апрацоўцы сельскагаспадарчых культур. 31.Сімвал хрысціянскага культу. У трэцюю куццю … малявалі на сценах і варотах; лічылася, што ён абараняе ад нячыстай сілы. 32.Улада, права. 33."Вунь па снезе да вёскі, здалёку,//... студзень кіруе наўпрост" – з верша А.Мінкіна "Студзень". 34."Прыехала Каляда на белым кані;//Яе конічак – ясен месячык,//Яе дружачка – ясна …" – з каляднай песні.

**Па вертыкалі:** 2.Тое, што і біяполе. 3.Невялікі пакаёвы або паляўнічы сабака. 5.Зіма, як …, сваё возьме (прык.). 6.Прастора як распаўсюджвальнік радыёхваль. 7.У чужым баку … па кулаку (прык.). 8. Даўнейшая назва Каляд. 10. … на куццю – ранняя вясна і благое лета (прыкм.). 12.Назва курынага свята, якое адзначалі 15 студзеня; у гэты дзень чысцілі куратнік, акурвалі сцены. 13.Спартсмен – спецыяліст па адным з гарналыжных відаў спорту. 17.Вокліч, які выражае трыумф, захапленне, душэўны ўздым. 19."Дзякуй, добры … стары,//За работу шчырую" – з верша В.Зуёнка "З новымі пяцёркамі". 20.Невялікі кавалак сала. 22. … Паразуха – прысвятак, які адзначалі 12 студзеня; у гэты дзень рэзалі свіней і варылі са свініны вячэру. 25.Сімвал 2017 года. 26."Туманамі … пушаны ўсё кудзеліцца,//па дарогах, ля парогаў мякка сцелецца" – з верша Л.Геніюш "Мяцеліца". 27.Імклівая кругавая плынь ветру. 28.Тоўстая дошка (разм.). 30."Мне … і мядзведзь у паслугах,//Мне служаць вавёрка і лось" – з верша Я.Купалы "Мароз".



**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*

## Адказы:

**Па гарызанталі:** 1.Ражство. 4."Кукарэку!". 8.Куры. 9.Зіма. 11. Асвячэнне. 14.Поні. 15.Лекі. 16.Куль. 18.Ліга. 20.Шале. 21.Мода. 23.Агат. 24.Сані. 29.Агранамія. 31.Крыж. 32.Воля. 33.Дзядзька. 34.Зорачка.

**Па вертыкалі:** 2.Аўра. 3.Такса. 5.Казна. 6.Эфір. 7.Вочы. 8.Кумпяк. 10.Адліга. 12.Сільвестр. 13.Слаламіст. 17.Ура. 19.Год. 20.Шматок. 22.Анісся. 25.Агонь. 26.Снег. 27.Віхор. 28.Дыля. 30.Воўк.

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.01.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 030 экз. Заказ № 80.

9 772071 964000 17007